## МАЕ ДУМЫ, МАЕ СЛОВЫ

Бацька мой служыў калісьці
У папа за парабка.
Век галодны, рад быў лыжцы
Саладухі з паранкай.

І не мог спіны батрацкай
Разагнуць натруджанай.
Пра вучобу марыў бацька,
Ды было не суджана...

Маці з гэткай жа надзеяй
Маладымі вёснамі
Прасядзела за кудзеляй,
За чужымі кроснамі.

Вочы выцвілі дачасна,
Гора шчокі выпіла...
Але сонечнай і шчаснай
Дзецям доля выпала!

Мае сёстры воч не слепяць
За гарбатай прасніцай.
Дэпутатка у Савеце
Тая, што калгасніцай.

А другую гоман школы
Кліча кожнай раніцы.
Слава добрая наўкола
Ходзіць аб настаўніцы.

Брат старэйшы на заводзе —
Тэхнік, сціплы выглядам,
Творыць ён і вынаходзіць
Розумам дапытлівым.

А другі ў калгасе, дома,
На магутным трактары.
Першынство ўступаць другому —
Не ў яго характары.

Яго сэрцу на барознах
Хораша і весела.
У пакоі ж кніжак розных, —
Што ў таго прафесара.

Вось такой я долю знаю:
Радасцю нязводная, —

Гэта доля майго краю
Доля ўсенародная.

І калі бяру аловак
У далонь шурпатую,
Мае думы, мае словы
Пра Народ і Партыю.

## ВЕРНАСЦЬ

Нас не было яшчэ зусім на свеце,
Калі грымеў Аўроры залп, калі
Пад ліўнем куль матросы і гвардзейцы
На штурм Палаца Зімняга ішлі.

Нас не было ў той час...
Але заўсёды
Мы чуем буры ў сэрцах маладых,
Як быццам марш семнаццатага года
Прайшоў праз далеч і адбіўся ў іх.

Ці росцім сад мы на пясках пустыні,
Ці ў стэп асмужаны вядзём канал —
Ніколі ў сэрцах маладых не стыне
Свяшчэнны той кастрычніцкі запал.

Імя яму — любоў к табе, Радзіма,
К табе, краіна шчасця і святла!

Жывём мы яснай мэтаю адзінай, —
Каб толькі ты квітнела і расла.

Байцы Кастрычніка таго ж жадалі,
Ішлі на бой і, гінучы ў баю,
Нам са свабодай разам пакідалі
Вось гэту мару лепшую сваю.

Хай знаюць тыя, хто бразгоча зброяй,
Што нашы сэрцы могуць біцца так.
Як у гвардзейцаў, у бацькоў-герояў
У грозны час кастрычніцкіх атак.

## УНУК

(Апавяданне сябра)

У сям'і павага ў нас мужчынам:
Дзед тапіў дзянікінцаў у Доне,
Бацька ўзводзіў горад на Амуры,
Брат старэйшы штурмаваў Берлін.
Ну, а я? Прызнацца, грэшным чынам,
Я адно зайздросціў іхняй долі,
Ды ў кампаніі рабога Шуры
Маладых варон здымаў з ялін.

Гераічнага было нямнога.
Праўда, знаў і я падчас адвагу,
Калі ў сад, разведчыкі нібыта,
Мы паўзлі да грушы напрасткі.
Дома лаялі за гэта строга,
f якую меў я там павагу!
Толькі й чуў ад маці: «Ах, прабітнік!
Так расшастаць новыя парткі!»

«І ў каго ён урадзіўся гэткі?
Каб на грэх — сказаў бы, што ў суседа»,—
Жартаваў, падвыпіўшы, бывала,
Бацька мой, на слоўца не скупы.
Толькі час ішоў. І неўпрыкметку
Мне і сорамна і прыкра стала
Выхваляцца подзвігамі дзеда,
Завадзілам быць у шантрапы.

Я пазнаўся з тайнамі юнацтва
І, вяртаючыся неяк з клуба,
Летнім вечарам ля самай брамкі
Так сказаў суседавай дачцэ.
Не, сказаць не змог я, а знянацку
Прыхіліў, пацалаваў у губы...
І пачуў, як бразганула клямка,
Паслухмяная яе руцэ.

Я пайшоў на курсы трактарыстаў
І вясной назад вярнуцца меўся.
Ды, на шчасце, быў я аднагодак
Тых, каго пазваў пярэдні край.
І пісалі мне, што цётка Хрыста
Праклінала мяне цэлы месяц —
За сынка, якога я, нягоднік,
За сабою звёў аж на Алтай.

Стэп бяскрайні... Гразь ды вецер моцны.
На світанні дрыжыкі ў палатцы.
Суп нішчымны, з дымам упрыкуску,
А ўпрыглядку да дзяўчат — чаёк.
Ды на тое мы і камсамольцы,
Каб не хныкаць у суровай схватцы!..
Да бацькоў, у край мой беларускі,
Я прыехаў пагасціць здалёк.

У сям і павага ў нас мужчынам:
Дзед тапіў дзянікінцаў у Доне,
Бацька ўзводзіў горад на Амуры,
Брат — герой апошняе вайны.
Ну, а я? Прызнацца, грэшным чынам,
Не чакаў, што выпадзе мне доля
У кампаніі суседа Шуры
Пакараць прасторы цаліны.

* * *

Колькі раздолля ты дорыш жыццю,
Край мой узгоркавы, край мой лясны!
Зноў, праяснеўшы ад замецей-сцюж,
Неба адбілася ў люстрах вясны.

Бор, перакулены ўніз галавой,
Топіць у возеры радасны гул.
Хмаркі да бору плывуць сінявой,
Белыя хмаркі бягуць па лугу.

Песня імклівая з вуліц сяла
Выйшла сягоння на польны прастор.
Зноў эстафету вясны прыняла
Моладзь над скібамі першых разор.

Верыць надзейна вясна у сяброў:
Славы не ўступяць, як прыйдзе пара
Першых пракосаў і першых снапоў,
Першых чырвоных абозаў дабра.

## МІНСК

А мне ўспамінаецца сорак чацвёрты:
Руіны, пажарышчы, попел сівы;
Дашчэнту разбураны ўвесь, ды не мёртвы!
Агнём зруйнаваны датла — і жывы!

На сценах прабітых, калісь беласнежных,
Застылую копаць змывалі дажджы.,.
Тым летам хадзіў тут газетчык замежны
У белых пальчатках, у белым плашчы.

Зазняўшы зямлянку — прытулак часовы,
Цадзіў нам праз зубы мацёры спецкор:
«Паўвека патрэбна, каб Мінск вырас новы,
Каб вылезлі людзі з сырых гэтых нор...»

Газетчык не ведаў, што тая зямлянка
Прытулкам юнацкаму сэрцу была:
Як вішня у цвеце, як песня-вяснянка,
Там любая сэрцу дзяўчына жыла.

І злосць мяне брала, і смех ад прароцтваў,
Што зычыў зларадна нам госць з-за мяжы.
Прарок ён, відаць, быў не з мудрых і проста
Людзей нашых мераў аршынам чужым,

Яшчэ не падумаў прарок той замежны,
Што ў нас ёсць Масква, і Свярдлоўск, і Баку,
Ёсць шмат гарадоў і вялізных і меншых,
Што Мінску, як брату, працягнуць руку.

Ды ну таго сэра! Хай сёння прыедзе,
Зірне, калі хоча. Пацешыўся б я!..
І хай запытае — раскажуць суседзі,
Як адрас мяняла тут песня мая.

Даўно мы жывём з ёй у доме дзівосным, —
Такім калісь бачыў я ў казках палац.
З рукі нашай лёгкай шчаслівыя вёсны
Заходзяць у дом наш вяселлі спраўляць.

Як люба сягоння прайсціся нам, глянуць
На стройныя, светлыя гмахі дамоў,
На скверы, на вуліц асфальтавы глянец,
На трубы з густымі чубамі дымоў.

Шумлівы, прыветны, вясёлы, бадзёры,
Красуйся, жыццём неўгамонным бурлі,
Адноўлены горад мой, сонечны горад —
Адзін з прыгажэйшых на нашай зямлі.

* * *

Ледзь трамвая звон зычлівы
Празвінеў па шкле акон —
Белай птушкай палахлівай
Адляцеў праз фортку сон.

У мяне экзамен сёння.
Зноў, як многа год назад,—
У чацвёртым або ў сёмым —
Сэрца б'ецца неўпапад.

Зноў мне ладзіла старанна
Снедаць маці і злуе,
Што пайшоў, не еўшы рана,
Сын гарэзлівы яе...

У прасторным вестыбюлі
Гурт вясёлы — на чарзе.
Пазнаю па шуму-гуле:
Хлопцы ўзрушаны усе.

Я хвалююся таксама:
Хутка прыйдзецца зайсці...
Колькі радасці, экзамен,
Ты прыносіш у жыцці!

Я б хацеў выпрабаваннем
Пачынаць свой кожны дзень,
Непаўторным хваляваннем
За сябе і за людзей.

## ДОМА

Як і заўсёды, летняю парой
Я на канікулах гасцюю дома,
І, як заўсёды, ў Слабадзе маёй
Што-небудзь нова мне і незнаема.

Вось гэты дом — калі узнёс ён дах
Насустрач яснаму блакіту неба?
Праходзіш — так і спакушае пах
Нядаўна вынятага з печы хлеба.

— У гэтым доме, — заўважае брат, —
На Новы год вяселле адгулялі.
— А там — адкуль той маладзенькі сад?
— Яго увосень школьнікі саджалі.

Там піларама новая звініць;
Глядзіш — і радасна і лёгка верыць:
Жыццё і дня на месцы не стаіць,
Яно нястрымана імкне наперад.

Іду да дзеда. Восемдзесят зім
Укрылі беллю галаву старога.
— Ці Ў госці зноў, ці можа назусім?
— Ды не, — кажу, — яшчэ вучыцца многа.

— Калі ж канец ужо?— пытае дзед,
І ў словах — шчырае неразуменне. —
Вазьмі вунь Толік хоць бы, твой сусед —
Яму гадоў, здаецца, нават меней,

Дык у яго сыны — каб ты зірнуў:
Ужо гуляюць у ката і мышку!
А ты, — і дзед мой нават уздыхнуў, —
А ты ўсё вучышся, а ты ўсё ў кніжку...

У той жа дзень, калі сцямнела ўжо,
Застаў я сябра Толіка ў праўленні.
Схіліўшыся над нейкім чарцяжом,
Ён за сталом сядзеў у задуменні.

Запаланілі думкі усяго,
А на паперы — новы двор калгасны.
— Хто склаў праект? — пытаюся ў яго.
— Ды, так сказаць, лічы, што наш уласны.

Вось-вось пачнем, — гаворыць, — будаваць,
І ўжо наступную зіму — павер мне —

Жывёла наша будзе зімаваць
На самай лепшай у раёне ферме.

Яшчэ я доўга з сябрам гаманю,
Шумяць ля вокан дрэвы маладыя,
І мне шкада, шкада упершыню,
Што ў госці толькі завітаў сюды

## ЯЕ МАЛЕНСТВА

Добра помніцца Галі: на чорным камінку
Аж да ранку гарэлі ўсю ноч смалякі,
І ўсю ноч не заснула малая Галінка:
Тата любы чамусь не вярнуўся з ракі.

А праз некалькі дзён, смерці чуючы мукі,
Прыгарнула матуля дачку да грудзей,
Чысты зрэбны мяшочак дала ёй у рукі
І слязой залілася: «Ідзі... да людзей...»

Добра помніцца Галі: асаднік багаты
За разбіты графін, што упаў незнарок,
Збіў батрачку малую і выкінуў з хаты
У зімовую сцюжу, у ноч, за парог.

Доўга бегла дзяўчынка праз цемру і замець,
Пасінеўшымі ручкамі падала ў снег.
Ад таго і застаўся, як горкая памяць,
На маленькіх далонях маршчыністы след...

А затым — і было гэта быццам учора:
Толькі ночы асенняй развеяўся дым —
З лёгкім рокатам выскачыў танк на пагорак,
І іскрыстае сонца — адразу ж за ім.

І зрабілася раптам так цёпла і светла!
Ці не полымя гэта — чырвоны той шоўк?
З люка вылез баец, усміхнуўся прыветна
І насыпаў гасцінцаў ёй поўны мяшок...

Многа раз адплывалі паводкаю зімы,
Асыпаліся квеценню вёсны ў садах.
Сёння Галю — дачку ясназорнай Радзімы —
Кліча смех дзетвары пад вясёлкавы дах.

Там сябры — іх высокая мэта зрадніла:
Юнай змене аддаць веды, сілы свае,
Каб не знала маленства і нават не сніла
Долі той, што калісьці спаткала яе,

## БАЛАДА ПРА ОРДЭН

Быў студзень.
Быў сівер і люты мароз.
А людзі ішлі і ішлі.
І падалі іскры нястынучых слёз
На сцёганкі і шынялі.

Ішлі несканчонай жывою ракой
Дзяды, і бацькі, і сыны
Да самай балючай,
Да самай цяжкой,
Што ведае памяць, труны.

І выйшаў салдат,
Вочы ўцёршы цішком,
З нямога патоку людзей
І ордэн з імклівым чырвоным сцяжком
Здымае з пакатых грудзей.

Здымае ён ордэн агрублай рукой,
І нібы ўздрыгнула рука,
Каторай ні разу не здрадзіў спакой
На выцертай сталі курка.

Было —
Чалавечага імя не меў,
І імя здабыта навек.
Было —
Па пацёмках бадзяўся, гібеў,
І сонца здабыта навек.

Было —
Раз'ядала душу ад нуды,
І шчасце здабыта навек.
І вось ён прыйшоў развітацца сюды,
Спазнаўшы сябе чалавек.

...Атака пад Курскам,
Уздыблены конь,
Зямля і кругі уваччу...
Ён ордэн з імклівым чырвоным сцяжком
На сэрца кладзе Ільічу.

Прымай, ясны сокал,
Прымай, правадыр,
Вышэйшую з узнагарод:

Яе уручае табе, правадыр,
Увесь разнявольце народ.

Братэрскай сям'ёю,
Пляччо да пляча,
Тваім будзем шляхам ісці...
Той ордэн,
Што лёг на пінжак Ільіча,
Адзіны ў ягоным жыцці.

* * *

Ці зайздросны мой лёс? Ці шчаслiва жыву?
Каб такое пытанне стаяла ў анкеце, —
Я, сябры, без хiстання б запоўнiў графу:
— Так, па-мойму, я — самы шчаслiвы на свеце!

Гальштук, помню, ў мяне на грудзях заалеў.
Строгi, важны i нават крыху ганарлiвы,
Сто разоў у той дзень я прайшоў па сяле, —
Быў узрушаны ўвесь i бясконца шчаслiвы...

Помню, ўзяў на заданне мяне падрыўнiк.
Сам я тол закладаў у той вечар дажджлiвы,
I калi спатыкнуўся варожы цягнiк, —
У атрад я вяртаўся бясконца шчаслiвы...

Незабыўнай вясной, першакурснiк-студэнт,
Я дзяўчыну ў кiно запрасiў, сарамлiвы,

Першы раз у жыцці. Не адзін у той дзень
Мог пасведчыць, што быў я бясконца шчаслівы...

Я з турмой землякоў ад’язджаў на Алтай,
Цаліну штурмаваць вёз цягнік нас імклівы,
У далёкую даль, у нязведаны край,
Вёз на подзвіг — і быў я бясконца шчаслівы...

Да матулі заехаў — пабыць у гасцях.
І калі яна выйшла на стук нецярплівы, —
Колькі радасці страціў у родных вачах!
Колькі ўцехі!.. І быў я бясконца шчаслівы...

Толькі мне не зайздросце без часу-пары,
Не кажыце, што я нарадзіўся ў кашулі.
Гэта ўсё было з іншымі — з вамі, сябры;
А таму — і са мной, а таму — і пішу я.

## ЖНІВО

Збажына — на ўвесь рост, —
Неабдымнае мора калосся.
І на ўсход да нябёс,
І на захад яно разлілося.

Хвалі зранку ўвесь дзень
Між сабой размаўляюць лагодна.
Карабель ім насустрач ідзе —
Мой камбайн самаходны.

Зерне ў бункер патокам цячэ,
Грузавік ад'язджае.
Тут ніколі яшчэ
Не здымалі такога ўраджаю.

Песню вецер нясе —
То дзяўчаты пяюць грамадою
Пра каліну, што ў лузе цвіце,
Ды пра светлую долю.

Песня ўдалеч плыве,
Адгукаецца ціш баравая.
Толькі ў нас,
На калгасным жніве,
Песня гэткай бывае.

* * *

Гоман працы змоўк у полі.
Сціхлі гукі за ракой.
Дзень адправіўся паволі
На заслужаны спакой.

Замігцелі зоркі ўвысі,
А ў калматым вішняку
Срэбны месяц прытаіўся
І глядзіцца у раку.

Дрэмлюць яблыні, густыя,
Клёны стомленыя спяць,
Толькі сэрцы маладыя
Не жадаюць спачываць.

Каля клуба чутна гранне:
Там пад звонкія лады
Ладзіць дружбу ды каханне
Люд шчаслівы малады.

Разганяючы дрымоту,
Ходзіць песня па сяле:
«А на золку — за работу,
За работу весялей!»

## МАЦІ

Я ўзыходжу на двор,
Я кажу ёй: «Са святам!»
І цалую знаёмыя родныя вусны,
І бяру пад руку,
І іду з ёй у хату,
Дзе ад прыпечку б'е
Дух гарачы капусны.

Я гляджу ў яе вочы,
Што свецяцца шчасцем,
Гладжу рукі сухія,
Прапахшыя зеллем,
І хілюся да сэрца...
А трэба б упасці
Перад ёю — нядужай, сівой —
На калені...

Вочы маці!
У доўгія зімнія ночы

Вы над намі
Вясёлымі зоркамі ззялі,
Вы ў нясцерпнай дрымоце
Зліпаліся, вочы,
І ўсё ж усміхаліся нам,
Забаўлялі...

Рукі маці!
Вы ў працы не зналі прынукі,
Вы насілі штогод
Мазалі, як бабіны,
Вы аж нылі увечары,
Мілыя рукі,
Спавіваючы нас
Перад сном галубіным.

Сэрца маці!
Наш боль быў тваім,
Не іначай,
Сорам наш
Ты насіла вялізарным горам,
Кропля ж кожная
Радасці светлай дзіцячай
Напаўняла цябе,
Разлівалася морам...

А цяпер ёй —
Адно б на сынка наглядзецца...

Жаль, і горыч, і боль
Мне душу працінае:
Як жа позна,
Як позна — любімыя дзеці
Мы няўдзячнасць сваю
Разумець пачынаем…

## ВЕЧАР У ЗЕМЛЯКОЎ

Гледачоў — як дзверы зачыніць.
Больш тут месца нельга ўжо нідзе знайсці.
Збытак люду і гарачыні
Сведчыць нам пра поспех самадзейнасці.

Праўдзі хусцінкай па ілбе
І не крыўдзіся, што сцены цесныя:
Тут ад смеху горача табе,
Тут душа твая сагрэта песнямі.

Ты маіх запомні землякоў, —
Гэта рыса ў іх даўно прыкмечана:
Ці на полі днём,
Ці ў клубе вечарам,
Што ні робяць,— толькі з агеньком!

* * *

Як толькі ноч ліпнёвая
Махне крыламі сінімі
Ды цішыня вішнёвая
Па ўсіх садах затоіцца, —
Тады хоць сэрца вынімі,
Каб толькі супакоіцца.

Каб толькі там, дзе ясені
Вартуюць сінь высокую,
Не чуць, як хтосьці ў засені
Заве любоў далёкую,
Як плача-захліпаецца
Струна ў руках пявучая,
Як рвецца-надрываецца
Чыясь душа балючая.

Я ў гэту ноч ліпнёвую
Іду сцяжынкай вузкаю,

Сцяжынкаю жытнёваю,
Зямлёю беларускаю.

Іду, а над крыніцаю
Туман бялявы сцелецца,
І дыхае аселіца
Пахучай медуніцаю.

Іду, а песня новая
Расце ў душы, чаканіцца,
І перапёлка ўдовая
Не спіць да самай раніцы.

Іду, а неба нізкае,
А ночка сінякрылая,
І ўсё да болю блізкае,
І ўсё — старонка мілая!

## ПЕРАД ВОСЕННЮ

Хоць сведчаць грымоты,
Што жнівень
У сіле яшчэ і красе,
Ды ўжо нашай вуліцай лівень
Лісты да рачулкі нясе.

Шчаслівую ўчуўшы трывогу,
Майструе хлапец-выпускнік
Сабе чамадан у дарогу
Для рэчаў студэнцкіх і кніг.

І дзеці адчулі ўжо восень:
Звяраюць па календары,
Ці многа дзянькоў засталося
Да радаснай школьнай пары.

Хапіла ім летніх уцехаў,
Другі авалодаў настрой,

Хоць не дазбіралі арэхаў
І не дапалілі кастроў.

Не вабіць рыбалка на Гайне,
Не клічуць сініцы ў бары...
А маці бяруць у кнігарні
Шчаслівым малым буквары.

## БАЛАДА ПРА КАМСАМОЛЬЦА

Як лента, уецца дарога між гоняў.
З узгорка, што дрэмле у сонечным пыле,
Спускаюцца карнікі ў вёску на конях,
І коні, угрэтыя ў пене, што ў мыле.
А вестка маланкай ад хаты да хаты —
Трывожная вестка, што блізяцца каты.

І мужны юнак з непакорнай душою —
Яму яшчэ толькі семнаццаць мінула —
Прабег да пшаніцы шырокай мяжою,
І родная ніва яго захінула.
Ды позна... прыкмеціў раз'юшаны вораг.
Загад афіцэра: «Даставіць жывога!»

А маці глядзела, як ён захінуўся,
Як сына заліў акіян каласісты,
І сэрцам маліла: хаця ж бы вярнуўся,
Хаця ж бы не ўбачылі сына фашысты.

А маці глядзела: «Заўважылі, гады!»
І, ломячы рукі, упала на грады.

І толькі пярэднія страшным галопам
Ускочылі ў ніву і з крыкам і з храпам,
Як першы наезнік асунуўся снопам:
Гарачая куля скасіла сатрапа.
Бясшумна і прагна густая пшаніца,
Як бездань марская, глынула арыйца.

А карнікі рынулі ў лютасці дзікай:
За некалькі крокаў жывая прынада!
І зноўку жахлівая смерць-невідзімка
Свінцовай асой упілася у гада.
І новы наезнік за грудзі схапіўся,
І выпусціў повад, і долу зваліўся.

Ужо запыніла разгубленасць катаў.
Ды вынырнуў хлопец з зялёнае хвалі,
Устаў ва ўвесь рост ён, і шэсць аўтаматаў
Шэсць чэргаў на сэрцы яго скрыжавалі...
У поле, дзе ніва наўсцяж каласіла,
Шырокай мяжой бегла маці да сына.

## ПЕРАД ПАРТРЭТАМ ДРУГА

Такім я запомніў
Цябе праз гады:
Імчаў на буланым
Баец малады,

З-пад чорнай кубанкі
Сачылася кроў,
Спыніўся ля штаба,
Саскочыў далоў,

Саскочыў і рухнуў
Ля ног у каня,
Што цэлым выносіў
Не раз з-пад агня.

Шмат год, як дубы ўжо
Твой сон сцерагуць,
А я ўсё змірыцца
Ніяк не магу.

Жывы для мяне ты,
У сэрцы жывеш,
Жывому табе
Прысвячаю свой верш.

Я — сейбіт на вольнай,
Шчаслівай зямлі.
і хоць на далонях
Нашу мазалі —

Не ўсцешаны, дружа,
Сабою, аднак,
Бо знаю, што сёння
Ты жыў бы інакш:

Ты, пэўна, наперад
Ішоў бы смялей,
Ты, знаю, і песні б
Спяваў весялей.

Ды толькі партрэт твой
Вісіць на сцяне.
Глядзі ж — прыглядайся
Пільней да мяне.

Дакор твой мацнейшы
Дакораў жывых.

Не дай заспакоіцца
Мне ні на міг.

Ці стомлены буду,
Ці лень успадзе —
Турбуй мяне, дружа,
І ўночы і ўдзень.

Не дай мне хвіліны
Адной змарнаваць.
Жыву я. Не трэба
Мяне шкадаваць!

* **

Звоніць песняй ранак, пасярэбраны
Першым лёгкім подыхам зімы.
Сёння ў нас вясёлыя пярэбары —
Ліпы ў Мінск перасяляем мы.

Тут цяпер ім з мая і да восені
Зелянець на ўцеху жыхарам.
А здаецца, з лесу перавозім мы
Штось яшчэ сюды. Здаецца нам,

Што парою тут — адно прыслухайся —
Будзе чутна, як шумяць лясы,
І крыніцы як журчаць ціхусенька,
І як птушкі зводзяць галасы

У адзіны хор. І пахкім водарам
Тут абдасць цябе у летні дзень,
Быццам крочыш ты не шумным горадам,
А лясною просекай ідзеш.

Плошчы, вуліцы абсадзім ліпамі,
Нібы рэк люстраных берагі.
Мы вялікай партыяй закліканы
Упрыгожыць край наш дарагі.

За жыццё сваё,
Як сад, зялёнымі
Зробім шмат шчаслівых гарадоў.
Даўнімі харошымі знаёмымі
Стануць ліпы праз паўста гадоў,

І тады, зазімкамі і зімамі,
Калі скроні зацярушыць снег,
Будуць нам жывымі успамінамі
Аб цудоўнай маладой вясне.

## ЗЯМЛЯК

За горадам Мінскам на пятай вярсце
Прыгожы рабочы пасёлак расце.
Там сёння дамы ў рыштаваннях стаяць,
Грымяць самазвалы і краны скрыпяць,
І ў зорныя ночы, і ў ясныя дні
Зіхцяць электрычнае зваркі агні.

Мне выпала неяк там стрэць земляка.
Прызнацца, я ледзьве пазнаў юнака.
Ён — каменшчык, праўда, не знатны яшчэ,
Ды, думаю, слава яго не ўцячэ —
Такая ўжо спрытнасць у дужых руках,
Такая рашучасць у карых вачах.

— Вы з дому?— пытае. — Ну, як там у нас? —
Юнак не забыўся на родны калгас. —
Ці дружна рыхтуюцца дома к вясне?
Ці клуб збудавалі ўжо новы, ці не?

Пабыўка няскора, а то б на ўспамін
Прыехаў пакласці хоць пару цаглін...

Я еду дадому і радасна так
За хлопца, што ў працы сапраўдны мастак,
За тое, што ён ад зімы да зімы
Будуе такія палацы-дамы,
За тое, што ўсе мы адзінай сям'ёй
Працуем для шчасця Радзімы сваёй.

* * *

Яму не забыцца хвілін тых ніколі,
Як крокам нясмелым зайшоў у райком.
Між членаў бюро у прасторным пакоі
Яшчэ выглядаў ён зусім юнаком.

І дзеля яго тут сабраліся тыя,
Што некалі ў гэткім узросце, як ён,
Ляцелі з Будзённым на схілы крутыя,
На пікі густыя, пад шабельны звон;

І тыя, чыю маладосць у трыццатым
Кулацкі абрэз абстраляў з-за вугла
І сталасць чыя ў гімнасцёрцы салдата
Ад Волгі і Дона да Эльбы прайшла.

Якая ж дарога ў яго за плячыма?
Якія заслугі — самому няўцям.
Пачнецца гаворка, пытанні — аб чым ён
Раскажа заслужаным гэтым людзям?..

Прыгоды маленства, вясковая школа,
Калгасны падпасак у летнія дні.
А потым — пуцёўка РК камсамола,
І вось ён каторы ўжо год — будаўнік...

Уся біяграфія — як на далоні!
Хіба расказаць пра сяброўства сваё,
Пра тую дзяўчыну з будоўлі, што сёння
Хвалюецца дзесьці не меней, чым ён?

Не, сёння хацеў бы цясляр пахваліцца
Пра клопат найбольшы, чым сэрца жыве:
Наш горад — рэспублікі слаўнай сталіца -—
Павінен раўняцца красой па Маскве.

Яго гэта мара і кроўная справа,
Якой прысвяціў ён сябе назаўжды.
Ён з першымі крочыць. Ён будзе па праву
Залічаны ў партыі слаўнай рады.

## ДЗЕД

Пра дзядоў пісалі многа,
А пра нашага — нічога.
Быццам ён таго не варты,
Быццам горшы ён з дзядоў.
А старому — хіба жарты! —
Сёння роўна сто гадоў!
У старога сёння свята,
І гасцей не месціць хата.

Колькі ўсіх імён ды ўзростаў —
Разабрацца тут не проста!
Толькі праўнукаў, напэўна,
Пяцьдзесят без аднаго.
Дзед сядзіць на куце чынна
Ды ўсміхаецца вачыма.
Ну і дзед! Ну, малайчына!
Пачалося ж ад яго!

Вось, падаўшы дзеду рукі,
Называюць сябе ўнукі.
Што за дзіва, што дагэтуль
Незнаёмымі былі?
Хіба можна ім з Іркуцку
Быць гасцямі часта ў Слуцку?
Рассяліўся род шчаслівы
На ўсю шостую зямлі!

За сталом стары падняўся,
І прыціхла ўміг радня ўся:
— Паміраць ваш дзед збіраўся
Сорак год таму назад.
Мушу я цяпер прызнацца,
Што хацеў бы пратрымацца
І яшчэ гадкоў дзесятак
Ці другі, на добры лад...

## АГНІ ІНТЭРНАТА

Як надакучаўшае свята,
Прайшлі канікульныя дні,
І зноў у вокнах інтэрната
Гараць вясёлыя агні.

Святлом прыветлівым, знаёмым
Мігаюць, вабячы здалёк.
Чаго ж на пляцы перад домам
Я запаволіў раптам крок?

Стаю, падняўшыся на ўсходцы,
А сэрца — хоць трымай рукой:
Якія людзі, што за хлопцы
Занялі наш былы пакой?

Другія ў вокнах інтэрната
Сягоння свецяцца агні.
Тут у мяне было багата
Найлепшай, можа быць, радні.

Ва ўсе куткі-закуткі краю
Дарогі выпалі сябрам.
Калі і дзе каго спаткаю,
Яшчэ не ведаю і сам.

Але мне большае вядома:
Нішто не зможа патушыць
Святла, што ззяла ў нашым доме
І адбівалася ў душы.

## УСЛАВІМ ІХ ПЕСНЯЙ

Як зараз вось бачу далёкую восень,
Калі я прыехаў у Мінск на вучобу:
Падвалы, дзе мне начаваць давялося,
Разбіты квартал, што нагадваў трушчобу;

Абкураны дымам, абсыпаны сажай,
Як прывід, ляжаў ён, паніклы ад гора.
А надпіс на сценах: «За сажанем сажань,
За каменем камень — адновім наш горад!»

Чаму ж я далёкай назваў тую восень?
Дванаццаць гадоў — мо' не так ужо многа.
Дванаццаць — нямнога... А што засталося
Ад восені той? Я не бачу нічога.

Я крочу па вуліцах, плошчах, алеях,
Дзе песні і гоман, дзе музыка з вокан —
На вобраз былога, што ў памяці тлее,
Нідзе не наткнуўся прыдзірлівым вокам.

А людзі насустрач, а людзі ў абмінку,
Прыгожыя людзі, рабочыя людзі —
Іх подзвіг працоўны, іх клопат аб Мінску
Шчаслівым патомствам забыты не будзе.

Я братняй удзячнасцю повен да краю
Усім, у каго сёння молат і кельма,
І шчырая зайздрасць мяне забірае,
І творчая рэўнасць, што паліць пякельна.

І хочацца кінуцца мне ў кабінеты,
Дзе ўдумныя твары сяброў над сталамі:
— Таварышы любыя! Братцы-паэты!
Як кепска усё-такі пішам мы з вамі!

Нам трэба даць песню, каб скрозь у краіне
Пачулі равеснікаў нашых імёны,
Што край узнялі з папялішчаў-руінаў,
Што вывелі к сонцу з зямлянак мільёны.

Уславім іх песняй, ды песняй такою,
Каб лашчыла душы, калі данясецца,
Каб цэгла хадзіла шпарчэй пад рукою
Пад гэтую песню ад шчырага сэрца.

## НЕ ЦІХІ МАЛЕБЕН...

Быў вечар — ва ўсіх закаханых у ласцы:
Шапталіся клёны, і зоркі цвілі,
І думаў я песню нягучную скласці
Пра мілую згоду нябёс і зямлі.
Але як наўмысна газетны малюнак —
Засланы пажарам чужы краявід —
Балючай трывогай у сэрца кальнуў мне,
І хруснуў у пальцах каляны графіт.

І вецер, надзьмуўшы, як ветразі, шторы,
Праз фортку ўварваўся, раскідаў лісты...
Даруйце мне, клёны, даруйце мне, зоры,
І травы, і росы, і месяц, і ты, —
І ты, не апетае мною каханне,
Шчаслівых надзей маладая зара:
На сонныя шэпты, на траў калыханне
Наладжваць ліру яшчэ не пара!

Яшчэ не пара нам, забыўшыся ў шчасці,
Па гладзі ружовай бяспечна плысці.
Не ціхі малебен павінен я скласці,
А песню, з якою на подзвіг ісці.
Патрэбна мне слова, як стрэл па мішэні,
Каб змусіла сэрцы забіцца мацней,
Каб думкі святлелі,
Каб рукі дужэлі,
Каб вочы наўкол пазіралі ясней.

І пэўна не скажа патомкам Радзіма,
Што з чэрствай душою прыйшоў я на свет,
Што я не разгледзеў усіх яе дзіваў,
Што ўсіх яе чараў не зведаў як след,
Што песні дзявочай не ўсюды азваўся,
Што красцы не кожнай кіўнуў галавой,
Не ў кожнай затоцы азёрнай купаўся,
Не з кожнай крыніцы прыгубіў лясной.

Нас гэткай раскошай эпоха не песціць,
І чэсці вышэйшай не знае пясняр,
Як тая, калі яго мужная песня
Па ворагу трапны наносіць удар.

## НАША ДРУЖБА

Вятры заміраюць у долах глыбокіх,
Абвалы спыняюць патокі ў гарах.
Хто спыніць вясновае раніцы крокі?
Хто дружбе заслоніць пракладзены шлях?

Куды не даходзіць ні сонца, ні вецер —
Скрозь дружба рассее праменні свае.
Ад шчырага сэрца да шчырага сэрца
Бясконцая ў свеце дарога яе.

Яна па-прыяцельску кліча у госці,
Руку паціскае, дарункі дае.
І з песнямі міру, вясны, маладосці
Абходзіць прасторы планеты ўсяе.

Яна сваім гневам гарматы і танкі
Тапіла ў Марсельскім парту на зары,
Каб маці ў Карэі маглі калыханкі
Спакойна спяваць перад сном дзетвары.

Яна загадала і белым і чорным
Пабрацца за рукі, стаць шчыльнай сцяной,
Каб Робсана голас гучаў непакорны
На страх людаедам, што трызняць вайной.

Хто чэсны і мужны, хто мару людскую
Здзяйсняе ў змаганні — нам сябра навек.
І хто на зямлі мае дружбу такую, —
На верным і светлым шляху чалавек.

## У ВІЛЬНЮСКІХ СЯБРОЎ

Мне гэтай стрэчы не забыць ніколі:
Усмешкі радасці жывой наўкруг,
Букеты кветак, поціск рук да болі
І дарагое сэрцу слова «друг».

«Студэнты з Мінска, з універсітэта,
Сягоння днём прыехалі сюды...»
Усхваляваны простай весткай гэтай
Сабраўся ў зале Вільнюс малады.

Я помню голас юнага прамоўцы,
Ен аб вялікай дружбе гаварыў,
*І* пляскалі ў далоні камсамольцы —
Не ўсе знаёмыя, ды ўсе сябры.

У ясным позірку хлапца з фізмата
Я столькі бачыў шчырай прастаты,
Што захацелася абняць, як брата,
І перайсці на ласкавае «ты».

З той залы многа я у сэрцы вынес.
А колькі дум запала ў галаву!
Я палюбіў гасцінны горад Вільнюс,
Як родны дом, як Мінск, дзе я жыву.

І не таму, што ў ім прыгоства многа,
Што многа помнікаў далёкіх год, —
Мы не сустрэлі там мілей нічога,
Чым жыхары цудоўныя яго.

З якой удзячнасцю і — разам — смуткам
Мы пакідалі іх праз пару дзён!
На развітанні, дарагім і хуткім,
Ізноў узрушана шумеў перон.

Гукаў цягнік, здаволены адпраўкай,
Варочаў коламі хутчэй штораз,
А мы ўсё чулі: «Віco лабо, драўгой!»
«Да стрэчы ў Мінску!» — неслася ад нас.

## СЯСТРЫ БАЛГАРЫІ

Далёка ты ад нашай Беларусі,
Зямля сяброў, зямля красы юначай.
Калі — не ведаю — у шлях збяруся,
Цябе, шчаслівы вольны край, пабачу.

Але душу маю сягоння поўняць
Твае мелодыі, і я не знаю,
Ці гэта шум разгалістых шаўкоўніц,
Ці гэта ўсплескі вольнага Дунаю?

Ці гэта ветрык ранішні, рухавы
Пакінуў свой начлег на перавалах
Балкан аснежаных, дзе рускай славы
Яшчэ сляды не сцерліся на скалах?

Гучаць мелодыі, і сэрца рвецца
Туды, дзе ружамі цвітуць даліны,
Дзе вінаграднік ля дарогі ўецца,
А ў небе клёкат чуецца арліны,

Дзе ў гушчарах з апошняй грознай ночы
Застылі вогнішчы кастроў гайдуцкіх,
Дзе песні ў вуснах маладых, дзявочых,
Зусім падобныя да беларускіх.

— Ой, дубе, дубе, вячысты дубе,
Чаму ж ты, дубе, завяў зялёны,
Завяў зялёны, лістом здрабнёны?
— Таму й завяў я, зялёны дубе,
Што ахінула імгла густая,
Імгла густая аж да карэння...

Гучаць мелодыі... І ў зале цеснай
Палаюць тысячы вачэй любоўю.
О, край, юнакаў, край садоў і песень,
Заўсёды сэрцам мы былі з табою!

Імгла рассеяна, бо ўстала сонца,
Расправіў голле зелен-дуб вячысты,
Гамоніць весела, шуміць бясконца!..
Нам люба слухаць спеў яго ўрачысты.

## НА ПРАДВЕСНІ

— Зірні на ручайкі — з якім імпэтам
Яны свідруюць снег, туманам сточаны! —
Гаворыць сябра мой па факультэту —
Вясёлы, рослы хлопец з Беласточчыны.

Да нас у Мінск прыехаў ён пад восень,
Як першы ў садзе ліст пабіла прозалаць,
Ва ўсім сышліся мы, адно нас розніць:
Я вершамі пішу, а сябра — прозаю.

Мы слухаем, як цяжка лес гамоніць,
Глядзім на звівы ручайкоў змяёвыя.
Нам абаім здаецца дзіўным сёння,
Што год назад былі мы незнаёмыя.

Стаім, як з братам, у абдымку цесным,
І вымаўляе сябра слова ўдумнае:
— Прадвесне! Слаўная пара — прадвесне!
Па ўсёй зямлі ідзе прадвесне шумнае!

# МАЙ

Адзвінеўшы ледзянымі крыгамі,
Улягліся рэчкі ў берагі.
Прывітаны радаснымі крыкамі
Бусел робіць першыя кругі.

Даль, прамытая дажджамі цёплымі,
Ясным вырысам зноў. лашчыць зрок.
Краскі яркія на ціхім поплаве
Усміхаюцца яшчэ здалёк.

Ты ідзеш абсохшаю абочынай
Пакланіцца руням маладым.
Над палямі — жаўранкі нязмоўчныя,
Над дубровамі — зялёны дым.

Адусюль нясе знаёмым водарам —
Мілым сэрцу водарам вясны.
Адусюль плывуць яе мелодыі —
Смех, і звон, і гоман — гул лясны.

На душы — прасторна, лёгка, весела:
Май ідзе па ўсім зямным шары!
І ва ўсіх краях твае равеснікі,
Незнаёмыя твае сябры.

Гэтаксама радуюцца зелені,
Сонцу яснаму над галавой,
Небу сіняму, палям засеяным,
Шэпту ліўняў з лісцем і травой.

Як і нам, з усіх грымот ім хочацца
Толькі той вясёлы слухаць гром,
Што пупышцы памагае лопацца,
Каб хутчэй раскрылася лістом.

## ДОЖДЖ ПРАЙШОЎ

1

Дождж прайшоў,
І на траве, на лісці
Зіхацяць, гараць
Брыльянты-росы...
Як любіў я
ў гэты час калісьці
Па вясёлых лужах
Бегаць босым!..

Дождж прайшоў —
І водарам п янлівым
Пацягнула з маладога бору,
І сцяблінка кожная на ніве
Пераможна пазірае ўгору.

Дождж прайшоў —
І з сэрцам зладзіць цяжка:

Птушкай рвецца ў чыстае раздолле!
І на грудзі поўныя, ўзацяжку,
Не надыхацца ніяк уволю.

Дождж жыцця,
Зялёных долаў свята,
Радасць сейбітаў
У дзень вясновы!
Слаўлю спеў твой,
Ціхі і заўзяты,
І адвечны і заўсёды новы!

**2**

...Недзе дождж прайшоў —
Па схілах горных,
Па садах, дзе белыя налівы,
Ды не той —
Гаючы, жыватворны,
А — атрутны, смертаносны лівень!

Дождж прайшоў —
І ў пенным сырадоі,
У вадзе з чысцейшае крыніцы,
У даспелым яблыку мядовым —
Смерць бязлітасная ўжо таіцца...

Дождж пакут...
З чыёй маўклівай згоды
Ён стаіць у небе чорнай хмарай —
Над буянай радасцю усходаў,
Над вялікаснай людскою марай?!

Я крычу да ўсіх маўклівых:
— Людзі!
Страшны дождж прайшоў!
Сягоння — дзесьці.
Ну, а заўтра —
Дзе ён заўтра будзе?
... Ці у вас не падрастаюць дзеці?

## НЯМЕЦКІМ СЯБРАМ

Калі ў маім горадзе шчасця і міру
Вячэрнюю змену абвесцяць гудкі, —
Ваш голас ка мне далятае з эфіру,
З далёкай Германіі, з Эльбы-ракі.

Ваш голас даходзіць магутным прыбоем,
І, нібы глыбіні ў час буры марской,
Ахоплена сэрца маё неспакоем,
Вялікай, балючай трывогай людской.

Узрушаны Гамбург стаіць прад вачыма.
Не веснія воды яго залілі.
У стройных калонах, самкнуўшыся шчыльна,
Ідуць патрыёты нямецкай зямлі.

Палаюць і свецяцца міру паходні.
Як яркія сонцы, гараць угары.
Не дайце ж, каб вецер атрутны, заходні
У вашых руках загасіў іх, сябры!

Мы знаем, мы верым, што вы на дарогу,
На шлях свой да шчасця
Не пусціце смерць.
І вашу рашучасць, і вашу трывогу
Каму, як не нам, да канца зразумець?

Мы бачылі гора, нам гора хапіла.
Не раз успамін яшчэ ў сэрца кальне.
Ці ж мала крывавых кастроў нам свяціла,
Каб вочы маглі углядацца пільней?

Ці мала з вачэй нашых слёз пралілося,
Слёз горкіх, сірочых, слёз крыўды і мук?
Ці мала магіл на палях засталося,
Каб новыя рыць? На выгоду каму?..

Вясёлае сонца, блакітнае неба,
Д песні кахання, і кветкі вясны, —
Мы ўсё па-сяброўску падзелім як трэба,
Мы — светлага міру і працы сыны.

## МАСКОЎСКІ ЛІВЕНЬ

Неба рыхтавала
Свой сюрпрыз юнацтву:
Цёплым ліўнем долу
Хлынула знянацку.

На шырокай плошчы —
Мітусня натоўпу.
Не чакаў ніхто з нас
Гэткага патопу.

Я знайшоў ратунак
Пад шчытком кіёска
Ды гляджу з уцехай
На вясёлы плёскат.

Бачу: недалёка
Госць стаіць на плошчы,
Працягнуўшы ліўню
Чорныя прыгаршчы.

Я крычу: «таварыш!»
І заву рукою,
Як магу, тлумачу
Моваю такою;

Клічу ратавацца
Да сябе пад стрэшку.
Толькі мне ў аддзяку
Дорыць госць усмешку.

У краіне пальмаў
І слановых біўняў,
Можа, ён прывыкшы
Не да гэткіх ліўняў?

Можа, гэты лівень,
Што руччамі льецца,
Хлопцу цёплым душам,
Дожджыкам здаецца?

А ці можа проста
Захацеў, упарты,
Зведаць асабіста,
Чаго дождж наш варты?..

Як бы ні было там —
Пэвен я застаўся,
Што маскоўскі лівень
Госцю спадабаўся.

* * *

Я спяваў аб роднай пушчы,
Аб ялінах-прыгажунях,
А згадаў ён пальмаў засень,
Сцежкі тыгравыя ў джунглях.

Я спяваў пра сенажаці,
Пра мурожны пах мядункі,
А яго ў саванне мілай
Апускалі крылы-думкі.

Я спяваў пра сэрца любай —
Сінявокай, светла-русай,
Ён жа бачыў кудзер чорны,
Шыю бронзавую ў бусах.

Я спяваў аб шчаснай долі,
Твар мой радасцю свяціўся,
А яго пагляд міжволі
Смуткам-горыччу спавіўся,

І няпрошаныя слёзы
Заіскрыліся на вейках,
І сціскаліся пагрозай
Кулакі у чалавека.

## ЗАЛАТЫЯ ФАНТАНЫ

Цэлы вечар на Выстаўцы
Я хаджу ўсхваляваны,
Дзе над клумбамі высяцца
Залатыя фантаны.

Хто прыдумаў іх гэткімі —
Ці не спісаны з казак? —
Велізарнымі кветкамі
У агромністых вазах?

Перавісшы вясёлкамі,
Б'юць у неба струмені.
Разляцяцца асколкамі —
Пырскі — золата жмені.

Я лучаю прыгледзецца
Да суседа-японца:
У вачах яго свецяцца
Тыя пырскі, як сонца.

Ёнісці не спяшаецца.
Хлопец марыць аб нечым.
Можа, госцю ўяўляецца,
Што ў далёкай далечы,

Там, дзе выспы бясплодныя,
Устаюць з акіяна
Не грыбы вадародныя —
Залатыя фантаны.

## І ВЕРУ Я...

І ў позні час, і ў час світання,
Як сцеле золак сцежкі дню,
Я чую словы прывітання,
А ў іх — любоў і цеплыню.

Я ў сэрца прагнае ўбіраю
Даніну ўдзячнасці людской
Майму спагадліваму краю,
Маёй Радзіме дарагой.

Па гэтых словах палымяных,
Што нарастаюць з кожным днём,
Вядомых, новых, безымянных
Сяброў сваіх мы пазнаём.

Іх больш і больш па ўсёй планеце.
І веру я: наступіць час,
Калі нідзе не застанецца
Глухой няветласці да нас!

***

Я спяшаўся за табою
Сінім золкам, ясным раннем,
Углядаўся ўдаль з тугою:
— Дзе ж ты, дзе, маё каханне?

Я спяшаўся бездарожжам,
Цераз буры, цераз ліўні.
Ні завеі, ні марозы
Перашкодай не былі мне.

Ды, відаць, прайшоў я мала,
Калі ты мне не далося.
Толькі рэха далятала,
Звонкай песні адгалоссе...

Што ж, я сёння больш у сэрцы,
Чым калісьці, сілы маю.
Дзе ні будзеш ты на свеце —
Я знайду цябе, спаткаю!

З краю ў край прайсці, праехаць
Я гатоў пад гэтым небам,
Бо не водгалас, не рэха,
А сама мне песня трэба!

*  **

Моўчкі ўскінула вочы,
І замёр я на міг:
Сумны позірк дзявочы
Мне у сэрца пранік.
Я не сніў і не думаў,
Што спаткаю калі
Столькі светлага суму
На вясновай зямлі!

Як завуць і адкуль ты,
І чыя ты была,
У каторай матулькі
Падрастала-расла, —
Я ў той ранак нічога
Не разведаў, нажаль:
Звала ўперад дарога,
Справы клікалі ўдаль...

Выпадковыя стрэчы,
Без паклону, без слоў,
Адыходзяць у вечнасць
Мілай казкаю-сном.
Я ж у сэрцы нязменна
І дагэтуль нясу
Сініх вон задуменных
Неразгаданы сум.

Можа, раніца тая
Проста ў зман завяла?
А быць можа — хто знае! —
Гэта ты і была,
Ты, адзіная ў свеце,
Лёс мой, зорка мая,
Аб якой аж да смерці
Шкадаваць буду я.

* * *

Пачакай, не спяшайся, любы,
Не пытай у мяне аб згодзе.
Паглядзі, як наўкол прыгожа,
Калі неба цвіце на ўсходзе.
Паглядзі, як бялеюць росы!
Калі ў росах успыхне сонца, —
Я зірну яшчэ ў твае вочы:
Ці ты любіш мяне бясконца?

Пачакай, не спяшайся, любы,
Не пытай у мяне аб згодзе.
Дай паслухаць мне спеў птушыны
У зялёных верб карагодзе.
Можа, сэрцу майму адгадку
У іх песнях пачуць удасца:
Ці ісці за цябе, ці лепей
Пашукаць мне другога шчасця?

* * *

Зноў над роднай зямлёй
Вее водарам хмельным, вясновым.
І расце неспакой
З кожным днём,
З кожным лісцікам новым.
Коле ў сэрца вясна
Кожнай новай травінкаю-кветкаю:
Як ты ладзіш адна,
Без мяне, з чараўніцаю гэткаю?

Як спаткала яе
Ты ў азёрнай старонцы далёкай?
Мне пачуцці твае
Аднаму разгадаць тут нялёгка.
За сялом, за гарой,
Ад змяркання блукаю да раніцы.
Гэтай дзіўнай парой,
Кажуць, з сэрцам чаго не здараецца!

Там, напэўна, гаі,
І ўсю ноч, ап'янеўшы ад маю,
Там пяюць салаўі.
Ах, я знаю іх песні, я знаю!
І не сплюшчыць мне воч,
І трывога мая не рассеецца:
Хіба жарты — ўсю ноч,
Усю ноч салаўі за аселіцай!

У той край, да цябе,
Мае думкі лятуць, мае песні.
Там, напэўна, цяпер
Зацвітае чаромха на ўзлессі.
Як жа буду я спаць,
Калі квецень духмяную, белую,
На букеты ламаць
Хлопцам тамашнім можна насмелую!..

***

Зноў над роднай зямлёй
Вее водарам хмельным, вясновым.
І расце неспакой
З кожным днём,
З кожным лісцікам новым.
Коле ў сэрца вясна
Кожнай новай травінкаю-кветкаю:
Як ты ладзіш адна,
Без мяне, з чараўніцаю гэткаю?

Як спаткала яе
Ты ў азёрнай старонцы далёкай?
Мне пачуцці твае
Аднаму разгадаць тут нялёгка.
За сялом, за гарой,
Ад змяркання блукаю да раніцы.
Гэтай дзіўнай парой,
Кажуць, з сэрцам чаго не здараецца!

Там, напэўна, гаі,
І ўсю ноч, ап'янеўшы ад маю,
Там пяюць салаўі.
Ах, я знаю іх песні, я знаю!
І не сплюшчыць мне ноч,
І трывога мая не рассеецца:
Хіба жарты — ўсю ноч,
Усю ноч салаўі за аселіцай!

У той край, да цябе,
Мае думкі лятуць, мае песні.
Там, напэўна, цяпер
Зацвітае чаромха на ўзлессі.
Як жа буду я спаць,
Калі квецень духмяную, белую,
На букеты ламаць
Хлопцам тамашнім можна насмелую!..

* **

Ціхі ранак. Снег крупчасты
Пад падэшвамі рыпіць.
Белым полем, крокам частым,
Хто насустрач мне бяжыць?

Можа, маці, ты, галубка,
Як дазналася з пісьма,
Што прыеду ў госці хутка,
Сустракаць ідзеш сама?

Толькі дзе табе, старая,
Так далёка ад двара!
Гэта, пэўна, сустракае
Брата роднага сястра.

Я пісаў ёй асабіста,
Што пабачымся на днях...
А чаго так моцна біцца
Стала сэрца у грудзях?

Белым полем, ціхім раннем,
Па іскрыстай цаліне...
Гэта ты, маё каханне,
Ты бяжыш насустрач мне!

Падхапілі рукі самі,
Як пушынку, паднялі.
А табе ж і не пісаў я,
Што прыеду і калі.

## ПАСЛЯ ПРЫЗНАННЯ

Асцярожна, ледзь чутна зайшла у пакой.
На сцяне ля ўваходу — бяскрыўдная звычка —
Адшукала знаёмую кнопку рукой...
І рашыла: не трэба — прачнецца сястрычка.

Сон у доме у самую сілу ўвайшоў.
Цішыня — толькі ходзікаў стук манатонны.
«А мо' крокі яго гэта? Дзе ён ужо?
Пэўна, зараз ён мост пераходзіць бетонны...»

Падышла да малой: «Спі, сястрычка мая!
Як шкада, што табе толькі шэсць было ўчора!
Ты не знаеш, якая шчаслівая я!
Ты няскора яшчэ зразумееш, няскора...»

І застыла над ложкам, нібы ў забыцці.
«Любы мой! Як назваць, што ўсяліў ты мне ў
сэрца?
Радасць? сіла?— не знаю.
Адно б у жыцці
Не расстацца мне з гэтым да самае смерці!»

## ВЯЧЭРНІ ЛІВЕНЬ

Расправіўшы шэрыя крылы,
Хмурынка на захадзе ўстала,
Цямнела, плыла, вырастала,
Як бы набіралася сілы.

Павісла над соннаю вёскай,
Пасля зашумела ў прысадах
І — залапатала па градах,
Пайшла па дварах з пераплёскам.

Са звонам на брук яна ўпала,
Загнала у сенцы ўлюбёных,
Абмыла лістоту на клёнах
І з шумам удалеч памчала.

На вуліцы — свежа і цёпла.
А зоры заззялі так ярка,
Як быццам прайшоўшая хмарка
Іх воўнай сваёю нацерла.

## ДВА АЗЯРЦЫ

*(Сябрам-маладажонам)*

Вясною неяк бачыў зводдаль
Два азярцы ў цішы лясной.
Такія роўныя абодва,
Нібы блізняты між сабой.

І быў да краю я здзіўлены,
Калі праз месяц усяго,
Прыйшоўшы зноў у кут зялёны,
Я не застаў з іх аднаго.

На месцы возера — лагчына
Шумела буйнай асакой.
І стала ясна мне прычына
Раптоўнай знікласці такой.

Калі вясна марозы гнала
І сонца плавіла снягі,

Лагчыну гэту напаўняла
Вадой ажно па берагі.

А толькі лета к палавіне,
Дзён цёплых пройдзе чарада,
І высыхала ў катлавіне
Да кроплі талая вада.

Другое ж возера спрадвеку
Ляжала ў лесе пад гарой.
Дарыла радасць чалавеку
Яно спякотлівай парой,

Ні на вяршок не абсыхала
Кайма пясчаных берагоў,
Бо несупынна-несціхана
Крыніцы білі з дна яго...

Я сімвал свой хачу прыкласці
Да лёсу вашага, сябры:
Хай будзе поўным ваша шчасце,
Як тое возера ў бары,

Што дзень і ноч са дна крынічыць,
Што мае пульс жыццёвы свой.
Хай вашу радасць не палічаць
Звычайнай талаю вадой.

## ПЕСНЯ АБ ВЯЧЫСТЫМ ДУБЕ

Стаіць ён на ўзлессі,
Адзін, без радні,
Ва ўсім наваколлі
Не мае раўні:
Ш атром велізарным
Раскінуў сукі,
На паўкіламетра
Развёў у бакі.
Барозны-маршчыны
Скрамсалі ўсяго.
А што за надгробак
Пад дахам яго?

Наташа вучылася
У Мінску, але
Штолета гасціла
У маці ў сяле.
Штолета

Прыезду яе у калгас
Не мог дачакацца
Каваль наш, Міхась.
Уранку сябры
Пакідалі сяло,
Ля дуба —
Умоўнае месца было.
Адтуль яны разам
Ішлі на барок,
Збіралі суніцы
У адзін кузавок,
Выходзілі ў поле
Да сініх ляноў,
На месца сустрэчы
Вярталіся зноў.
У цені прахладным
Сядзелі ў траве,
Глядзелі, як хмарка
Да дуба плыве...
Магутнае дрэва!
Напэўна, таму
Яны давяралі
Усе тайны яму.
Аднойчы на ўзлессі
Іх дождж пераняў.
— Пабеглі да дуба, —
Сказала яна.

Дуб выпраміў
Дужыя рукі-галлё
І ліўню падставіў
Далоняў мільён,
А хлопцу здалося:
Дождж лісце прав е.
Ён шчасце бліжэй
Прытуліў да сябе.
Гарачыя вусны
Сустрэліся ўміг...
Гром грымнуў вясёлы,
І лівень заціх.
Калі ж завіхрыла
Над краем вайна, —
У лес падаліся
І ён і яна.
І жнівеньскім ранкам
У сорак другім
Змаганне няроўнае
Выпала ім.
Акружаны ў лесе
Іх мужны атрад
Маленькім астаткам
Прарваўся з засад.
Наташу з прабітым
Навылет плячом
Міхась на сабе

Адцягнуў пад агнём
Назад
У балотную нетру...
Яны
Цяпер апынуліся
У лесе адны.
І вось па імшары,
Па ржавай вадзе,
Сяброўку аслабшую
Хлопец вядзе.
А выстралы бліжай
І бліжай наўкруг —
Ужо неўзабаве
Замкнецца ланцуг.
Міхась прыпыніўся,
Далонь яе ўзяў,
І сціснуў балюча,
І ціха сказаў:
— Наташа, загінуць
Нам нельга ўдваіх:
Адзін з нас павінен
Застацца ў жывых,
Павінен застацца
Жывым на зямлі,
Каб ворагу помсціць
За тых, што ляглі...
Спакойна і спрытна

Мілі купін рудых
Ён вырыў бярлогу.
— Лажыся сюды!
— А сам ты, Міхаська?
— Лажыся хутчэй!
Хвіліна — і знікла
Дзяўчына з вачэй.
Там купіну хлопец
Ураз нагарнуў
І нават галінку
Наверсе ўтаркнуў.
Сам воддаль адбегся,
За хвояй залёг
І чорным ламаччам
Прыкрыўся як мог.
Наташы казыча
Сцяблінкамі твар,
Дыханне спірае
Балотная твань,
Мяртвее ад холаду
Цела ў вадзе...
А гэта? Што гэта? —
Хтось грузны ідзе,
Хтось цяжка ступае
На ногі амаль
...І крочыць уперад.
І болей няма.

І раптам Наташа
Уздрыгнула уся:
Дзесь побач пачуўся
Ускрык Міхася.
І трэск аўтаматаў
Яшчэ не замоўк,
Калі разарваўся
На купіне мох, —
Як бы раздалася
Яна папалам,
І ўстала дзяўчына
З гранатаю там.
— Міхась! — закрычала, —
Касі іх! Касі!..
Ад выбуху дрогнула
Кволая сінь,
Шумлівае рэха
Пайшло па вярху.
Брусніцамі спелымі —
Кроў на маху.

Іх вынеслі ўранку
На ўзлессе, туды,
Дзе волат на сонцы
Спяліў жалуды.
Байцы-партызаны
У доле сухім

Капалі магілу
Шырокую ім.
Бясшумна кідалі
Рыдлёўкі зямлю.
Тужліва гучаў
У прасторы салют.

Гавораць вяскоўцы:
Дуб-волат стары
У роздум глыбокі
Запаў з той пары.
І зараз ні вецер,
Ні злосны віхор
Не могуць парушыць
Той роздум яго.
І бура, што голле
Крышыла раней,
Сягоння на дубе
Ліста не скране.

## «ПУСТАТА»

Думаў-думаў бос нахабны
Ды сказаў мо’ ў соты раз:
«Сродак наш — пагроза, хабар.
А сумленне — не для нас».

Гэта правіла падводзіў
Ён да ўсіх сваіх дактрын.
З гэтым правілам на Усходзе
Бос і «вакуум» адкрыў.

«Ай-ай-ай! — скрывіў ён міну, —
Гэта ж так не даглядзець!
Болей нельга і хвіліны,
Склаўшы рукі, нам сядзець.

Ад імя цывілізацыі,
У якой мы на пасту,
Неадкладна трэба ўзяцца
І запоўніць пустату!

Ах, няшчасныя арабы!
І свабоды ў вас няма?
І наогул тонус слабы?
Ну, не плачцеся дарма!

Дапаможам з гора выйсці,
Каб зусім не палеглі.
Хоць бы гэтак, як калісьці
Філіпінам памаглі».

З гэткай «лаской і любоўю»
Прагне бос чужой зямлі,
Пустату запоўніць кроўю,
Перамешанай з слязьмі!..

Так, панове, вы б хацелі,
Вам бы свет увесь падай.
Вы ажно схудалі ў целе,
Што не «вакуум» Кітай.

І што Індыя таксама
Усё «запоўніла» сама
І сказала ясна й прама:
«Пустаты ў нас больш няма!»

Хопіць! Ведаем, панове,
Чым вас вабіць Блізкі Усход.

На прыгожым, гучным слове
Не абвесці вам народ!

Калі рэзаць праўду ў вочы
(А ў дагадках не блукаць),—
К нам таксама не аднойчы
Лезлі «вакуум» шукаць.

Ды вярталіся без славы,
І шчаслівым стаўся той,
Хто штаніны ці рукавы
Вёз з адною «пустатой».

У другіх было іх болей.
Хто ж не справіў ла-та-та, —
Ад таго на полі бою
Засталася... пустата!

## ЖУК-ТУРЫСТ

Неяк летам да мядзведзя
Прыбылі турысты:
Край праслаўлены агледзець
Трэба асабіста.

Лось прыйшоў, бабёр і заяц.
Вожык і вавёрка,
І, нарэшце, прыпаўзае
Чорны жук разоркай.

Гнаявік, што рые ямкі
На быдлячых сцежках,
Пра якога знае ўсякі
Прымаўкі-насмешкі.

— Што ж, на свеце ўсё бывае!—
Гаспадар зазначыў:
— Жук, дык жук. Бяда такая!
Хай і жук пабачыць!..

Аб гасціннасці мядзведзя
Скрозь даўно вядома:
Хто ні прыйдзе, ні прыедзе —
Можа быць як дома.

Вось паважны і ўрачысты,
Раніцою роснай,
Гаспадар вядзе турыстаў.
Па зямлі дзівоснай,

Дзе дубровы векавыя
Цэдзяць пошум лісця,
Дзе крыніцы б'юць жывыя,
Дзе кусты спляліся.

— Што за водар! Што за зелень!
Колькі прыгажосці! —
У парыве захаплення
Вышукаюць госці.

Толькі жук адзін нічога
Заўважаць не хоча
Ды пільней усё пад ногі
Упірае вочы.

Як прайшлі па ўсіх кірунках,
Гаспадар гасцінны

Вынес безліч падарункаў
Госцям на ўспаміны.

Шануючы звычай добры,
Дзякуючы шчыра,
Накладаюць госці ў торбы
Розных сувеніраў.

Толькі жук адзін нічога
Выбіраць не хоча
Ды пільней усё пад ногі
Упірае вочы.

А як рушыць у дарогу
Парашылі госці:
— Жук прапаў! — забіў трывогу
Нечакана хтосьці.

— Гнаявік згубіўся недзе!
Во, калі няшчасце!
Неспакой узяў мядзведзя:
Дзе б ён мог прапасці?

Пушчу ўсю аблазіў чыста,
Апытаў суседзяў —
Не знайшоў нідзе турыста
І слядоў не ўгледзеў.

На задворку ж, за сцяною
Атаропеў раптам:
Жук стаіць ля ямы гною
З фотаапаратам!

Паглядзеў мядзведзь з агідай
На такі малюнак:
— І знайшоў жа краявіды!
Цьфу, брыдота! — плюнуў.

Жук і тут застаўся жукам.
Як не мог я сцяміць!..
Значыць, вось што ён вышукваў,
Каб узяць на памяць!

Хай жа пяткі тут падмажа
Ды паўзе дадому.
А што ён пра нас раскажа,
Гэта нам вядома.

Усё на свой аршын ён змерыць,
Скажа: гною яма.
Толькі хто жуку паверыць? —
Хіба жук таксама?!

## ДЗЯДЗЬКАЎ АБЕД

Дзядзька ў лісцік каля касы
Доўга не ўглядаўся.
Суп, катлета, чай ды каша —
Вось тут і яда ўся!
«Што за кухня! Ну і выбар!
Марна тупаў столькі!..»
Але ўсё ж талоны выбіў
І прысеў за столік.
Ды спяшаецца не надта
Дзеўчына з падносам;
Толькі рыжая цырата
У дзядзькі перад носам.
А на гэтай на цыраце
Цэлае балотца:
Грамадзяне, выцірайце.
Не шкадуйце локцяў!
Дзядзьку, быццам на іголках,
Не сядзіцца ў крэсле.

Праз гадзіну яму толькі
«Першае» прынеслі.
Супам быць яно павінна,
Ну, а гэта ж —кпіны:
Тут крупіна за крупінай
Гоніцца з дубінай!
Дзядзька ўраз быў абурыўся:
«Мо' знарок мне рэдкі?»
Аглянуўся — прымірыўся:
І ў суседа ж гэткі!
Разлічыўся дзядзька з супам —
Не нясуць катлеты.
Зірк: відэлец з адным зубам!
Ці не здзекі гэта?!
І не сорам чалавеку
Адназубы несці.
«Як жа гэтакім калекам
Мне «другое» есці?!»
Супакойся, дзядзька, лепей,
Спрытны ты замнога.
Перад дзядзькавай катлетай
Доўгая дарога.
Покуль пройдзе яна пешшу
Гэтую дарогу —
Ты забудзеш, што еў «першае»
І ці еў наогул.
Вось яшчэ паўцыферблата

Абагнула стрэлка.
Што, брат дзядзька, сумнавата
Над пустой талеркай?
Ну, не лайся, так — нядобра,
Вунь нясуць, нарэшце!
Ды замест катлеты — воблу:
«Што ёсць, тое й ешце!..»
У кішках у дзядзькі пуста,
Сапсаваў ён нервы.
Місу кашы ці капусты
З’еў яшчэ цяпер бы!..
Дзе купіць абед чарговы —
Дзядзька сам не знае.
Хай загляне ў трэст сталовых,
Можа, ён парае.

## СЕНАЖАЦЬ

Сенажаць, сенажаць...
Як ідзе з папоек
Цераз луг старшыня, —
Вымакне па пояс.:
    Гэтак травы выгнала
    За калгасным выганам.

Сенажаць, сенажаць —
Вось было б дзе корму!
Калі спляжыць, прыбраць —
Знаў бы статак норму:
    Для ягняці кожнага —
    Цэлы воз мурожнага!

Сенажаць, сенажаць!
Выйдзеш рана — росна,
Варта крыху счакаць —
Горача і млосна!

Стой, трава, на корані
І не лезь з дакорамі!

Сенажаць, сенажаць —
Без канца, без краю!
Гультаям паляжаць —
Лепш не трэба раю.
Паляжыш, павернешся
Дый дахаты вернешся.

Сенажаць, сенажаць —
Проста заглядзецца.
Толькі ў копы, нажаль.
Сама не кладзецца.
Нават не зграбаецца.
Ох, не падабаецца!

Сенажаць, сенажаць!..
Злосць, і не кажы ты:
Сто гектараў ляжаць
Дзікім куп’ем сшыты.
Купіны, эх купіны —
Будзе корм прыкуплены.

## ПРА СТАРШЫНЮ, БЫКА І СІЛАС

Зваўся бык у нас. Лабатым
(Трэба ж клічку мець сваю!)
На прадвесні цяжкавата
Давялося бугаю.

Частавалі сенам посным,
І таго — адзін касмык.
А таму пануры, злосны,
Не ў гуморы ходзіць бык.

Старшыня калгаса Хведар
Пра настрой быка не знаў,
І аднойчы каля фермы
Ён ласкава запытаў:

— Ну, чаго, чаго ты, быську,
Касавурышся на нас?
Бугая, прызнацца, зблізку
Бачыў Хведар першы раз.

Лоб шырокі, як кавадла,
Карак-хіб не знаў ярма.
Паглядзеў спадлоб'я падла,
Есці хоча — а няма.

Абышоўшы цётак бокам,
Ён капнуў зямлю, зароў —
Старшыню у момант вока
Пакаціў, як быў здароў.

Бедны Хведар, бы з прасоння,
Усяго й запомніць мог,
Што у нейкае бяздонне
Паляцеў з бычыных рог.

Ачуняў — уверсе прама
Неба сіняга квадрат.
Што за ліха: студня? яма?
Яма! Сіласная, брат!

Ох, адбіў, пракляты, плечы
І пячонкі ўсе адбіў...
Як бы добра, як дарэчы,
Каб у яме сілас быў!

## ВІНЦУСЬ КАЛЯНДАРНЫ

Даўно ён лічыцца ў паэтах.
Яму прыносіць муза плён.
Ва ўсіх часопісах, газетах
Мільгае ён
Сярод імён.
І досыць добра прымільгаўся,
Як выйшаў з музай у паход.
Калі ж і дзе надрукаваўся
Паэт за ўвесь мінулы год?
Пералічу вам без падказу
Яго прадукцыю усю:
На май — у трох газетах зразу
Пашанцавала Вінцусю.
Тры вершы даў у гонар свята,
І ўсе былі, як блізнюкі.
Падобныя, як брат на брата
(Вядома, з-пад адной рукі!).
Да мая выступіў ён тройчы:

Савецкай Арміі дзень быў,
Дзень выбараў і Дзень жаночы,—
Дык ён тры вершы і зрабіў.
Ен каляндар гартаў, быў рады,
Што шмат чырвоненькіх лісткоў,
І ў гонар кожнай важнай даты
Ён рыфмаваў па сто радкоў.
Дзень фізкультурніка адзначыў,
Да Дня дзяцей — таксама верш,
І Міжнародны дзень юначы
І Дзень студэнтаў — не мінеш.
Затым праславіў Дзень танкістаў,
Пасля чыгуначнікаў Дзень,
Кастрычнік, Дзень артылерыстаў,
А там — і Новы год ідзе.
І спрактыкованы «пясняр»
Павесіў новы каляндар...

# З М Е С Т

## ДОЛЯ МАЙГО КРАЮ

## МЕЛОДЫІ ДРУЖБЫ



## ТРЫВОГІ СЭРЦА



## СЯМУ-ТАМУ "ПАЧАСТУНАК"